Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

23 – 29 КАСТРЫЧНІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 5000 РУБЛЁЎ
№43 (183)

## АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

### Нумар будзе ў кожнага

По вуліцы Стаханаўскай, побач з ГАП–5, на слупе ДАІ ўстанавіла стацыянарны тэлерадар. Цяпер дастаткова перавысіць хуткасць у 60 км/г, як нумар "ліхача" аўтаматычна фіксуецца ў памяці прыбора. Раней парушальнік правілаў мог спаслацца на тое, што прыбор зафіксаваў перавышэнне хуткасці нейкім іншым аўтамабілем.

Застаецца спадзявацца, што з установкай тэлерадара аўтааматары і вадзіцелі–прафесіяналы будуць больш павольна праязджаць самую доўгую вуліцу горада. *Ігар КІЦІКАЎ.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Наш час

Кафэ "Ля Гасцінца", што знаходзіцца ў гарадскім парку, неадназова выстаўлялася на аўкцыён. Нарэшце, яно знайшло гаспадара.

За 1 мільярд 250 мільёнаў кафэ набыў Саюз моладзі "Наш час" з Беразінскага. Стваранае падчас выбараў у Вярхоўны Савет XIII склікання, гэтае маладзёжнае аб'яднанне не распалася, а ўсё больш упэўнена заяўляе пра сябе. Акрамя ўдзелу ў многіх спартыўных, культурных мерапрыемствах, яно актыўна стварае новыя рабочыя месцы. *Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

### Ці будзе цёпла ў горадзе?

Звыш за 30 мільярдаў рублёў завінаваціліся ВА ЖКГ спажыўцы энерганосьбітаў. Завод аптычнага станкабудавання павінен заплаціць 18 мільярдаў рублёў, жыллёва–эксплуатацыйнае ўпраўленне будмантажнага трэста №41 – 4 мільярды, агрэгатны завод – 2 мільярды.

Існуе і вялікая запазычанасць па кватэрнай плаце, за камунальныя паслугі кватэраўладальнікаў. Агульная сума пратэрміненай запазычанасці складае больш як 1,9 мільярда рублёў. Некаторыя кватэранаймальнікі не плацяць аб'яднанню па 15, 20 і нават 30 месяцаў. Два жыхары Заходняга гарадка, дзе, у асноўным, жывуць сем'і ваеннаслужачых, не разлічваюцца за кватэры і паслугі ўжо на працягу 40 месяцаў.

У сваю чаргу, камунальнікі з цяжкасцю разлічваюцца за пастаўкі расійскага газу. Дырэктар ВА ЖКГ **Браніслаў Стурліс** гаворыць, што слупок тэрмометра ў ацяпляльны сезон не ўзнімецца вышэй за адзнаку ў 18 градусаў. Магчыма і такое становішча, калі тэмпература ў кватэрах смаргонцаў упадзе да 13–14 градусаў – за ўсё плаціць трэба своечасова. *Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Перспектыўны ўніверсітэт

Тут пачаў сваю работу заснаваны грамадскім навукова–аналітычным цэнтрам "Беларуская перспектыва" "Народны ўніверсітэт".

Праграма навучання ў ім уключае тры абавязковыя курсы: праблемаў эканамічнага рэфармавання, паліталогіі і геапалітыкі, гісторыі Беларусі і яе культуры. Заняткі будуць весці вядомыя беларускія навукоўцы. Мяркуецца, што заняткі працягнуцца да канца студзеня наступнага года. *Алесь ЦАДКО.*

ВАЛОЖЫН

### Платная харэаграфія

У Ракаўскім дзіцячым садку пачаў працаваць лагапед. На раёне паслугі па выпраўленні моўных дэфектаў бясплатныя.

А вось вывучаць замежную мову ў садках №2, 3, 5 райцэнтра, вёскі Багданава даводзіцца за грошы. Харэаграфія, лячэбны масаж у дзіцячых садках горада – таксама за дадатковую бацькоўскую плату. *Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

### Як у кіно

У вёсцы Рабунь на базе СШ створаны клуб "Мая сям'я".

Плануецца абмеркаванне жыццёвых сітуацый з удзелам рабуньцаў, экспертаў. Усё, як у аднайменнай тэлеперадачы РТР. *Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## «Рэгіянальная» пераехала

Вялікі Гасцінец

В.Гасцінец, 68а

СШ №6

«РГ»

Вул.Хмяльніцкага

Інтэрнат палітэхнікума (месца ранейшага размяшчэння)

Вул. Талстога

Рынак

СЕСІЯ

## Калі за подзвіг плацяць

**На сесіі Маладзечанскага гарсавета быў зацверджаны штатны расклад футбольнага клуба «Маладзечна», каштарыс расходаў на верасень–снежань.**

У грамадскім аб'яднанні ФК "Маладзечна" 35 чалавек. Аплата працы за гэты перыяд складае 2 мільярды 324 мільёны. Дадатковаідуць выдаткі на харчаванне – 170 мільёнаў, спорт-інвентар, форму – 934 мільёны. Таксама карыстанне транспартам, гаспадарчыя расходы... Грошы на каманду знойдуць на заводзе лёгкіх металаканструкцый, вызваліўшы яго ад падаткаў на дабаўленую вартасць і за карыстанне зямлёй.

Па словах выканаўчага дырэктара ФК **Юрыя Лукіна**, трымаць клуб сапраўды каштуе дорага. Для прыкладу, мазырская "Славія" сёлета выдаткавала 500 тысяч долараў толькі на набыццё футбалістаў. А на экіпіроўку каманды пайшоў пяцігадовы бюджэт ФК "Маладзечна". Юрый Лукін падзякаваў дэпутатам за разуменне тых праблемаў, што стаяць перад клубам, матэрыяльную падтрымку і паабяцаў, што хлопцы здзейсняць подзвіг – застануцца ў вышэйшай лізе. *Васіль САВІЦКІ.*

УПЕРШЫНЮ!

### Дзіма Жалудок стаў італьянцам

*РАДАШКОВІЧЫ. Навучэнец мясцовай школы–інтэрната Дзіма Жалудок на гэтым тыдні змяніў прозвішча на Арлакі. Упершыню італьянскай сям'і дазволілі ўсынавіць сірату з Беларусі.*

Дзіму 12 год. У Радашковічы ён трапіў з інтэрната для невідушчых. Тры гады, як хлопчык жыве ў Італіі, там вучыцца.

– Вярніце дзіця, – з упартай перыядычнасцю патрабавалі беларускія чыноўнікі.

З такой самай перыядычнасцю паштовы служачы **Антоніо Арлакі** ездзіў у Беларусь і падаўжаў візу.

У Антоніо і ягонай жонкі **Марыі Напалі** сваіх дзяцей няма. Марыя – хатняя гаспадыня. Па яе словах, шмат часу ідзе на догляд за Дзымам (так вымаўляюць імя італьянцы). Наогул жа ў Мінску, у рэспубліканскім цэнтры ўсынаўлення, сто італьянскіх сем'яў стаяць на чарзе, каб усынавіць дзяцей–сірот. *Аддзел інфармацыі.*

### 3 нядзелі –зімовы час

Не забудзьцеся ў суботу ўвечары перавесці перад сном стрэлкі сваіх гадзіннікаў на адну гадзіну назад. Гэта можна зрабіць і даклад на ў тэрмін, але тады давядзецца падымацца ў 3 гадзіны ночы з суботы на нядзелю.



ДОСВЕД

## Бытавікі стрыгуць "зайцоў"

*ВІЛЕЙКА. Камбінат бытавога абслугоўвання робіць як бы несумяшчальныя рэчы: сваімі вырабамі славіць горад, абслугоўвае насельніцтва, зарабляе грошы (прычым працуе з прыбыткам). Хаця з 13 відаў яго паслуг усе стратныя. У такой сітуацыі адныя КБА адмаўляюцца ад аказання такіх паслуг. Іншыя становяцца банкрутамі. Вілейчане, насуперак усяму, выбралі свой шлях.*



*Энергіі дырэктару Зінаідзе Шабуні не займаць.*

### Касцюм ад Алены

**Алена Соніч** – тэхнолаг швейнай вытворчасці. У яе, акрамя ведаў, фантазіі, "падручнікі" на зайздрасць модніцам – "Бурда", "Сабрына", "Сандра". Менавіта яна распрацоўвае ў камбінаце мадэлі адзення. Цяпер эксперыментуе з футрам пад леапарда.

У швейным цэху камбіната 32 работнікі. Ёсць падставы працаваць у 2 змены. Па словах дырэктара КБА **Зінаіды Шабуні**, попыт на жаночае адзенне камбінат не задавальняе. Сталічны гандлёвы цэнтр "Кірмаш" з ахвотай бярэ прадукцыю на продаж, раіць павялічваць аб'ёмы паставак. У Доме быту размясціўся і вязальны цэх, які пераабсталявалі швейцарскімі машынамі. Адна з такіх машын каштуе 600 мільёнаў. Вязальшчыца **Таіса Клімантовіч** паспявае працаваць адначасова на дзвюх замежных машынах. Вяжа джэмперы, жакеты, самы разнастайны асартымент.



*На ўсе рукі майстар Наталля Літвіновіч.*

ФОТА АЎТАРА.

*Заканчэнне на 2–й стар.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Сімулянты «за кампанію»

МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні эпідэміялагічная сітуацыя складвалася добра, зарэгістравана 24 выпадкі захворвання вострымі кішэчнымі інфекцыямі.

У Красненскую СШ выязджала брыгада спецыялістаў райЦГіЭ: як высветлілася пры абследаванні шпіталізаваных у інфекцыйнае аддзяленне МТД, двое з вучняў сімуліравалі захворванне "за кампанію".

Зарэгістравана 3 выпадкі захворвання на гепатыт "А" (хвароба Боткіна), усе ў в. Палачаны, верагоднай крыніцай захворвання паслужыла нядобраякасная пітная **вада**.

Былі сур'ёзныя праблемы з забеспячэннем вадой сярэдніх школ у в. Краснае, г. п. Радашковічы, в. Хоўхлава, дзе выйшла са строю артсвідравіна і да школы прыйшлося весці часовы водаправод. У Лебедзеўскай СШ з–за перабояў у водазабеспячэнні вучні з 14 па 19 кастрычніка не наведвалі школу.

Другі тыдзень адзначаецца рост захворваемасці вострымі рэспіраторнымі захворваннямі – 901 выпадак.

Грубыя парушэнні санітарных нормаў і правілаў устаноўлены ў магазіне №42 в. Аляхновічы, Красненскага РТП, загадчыца магазіна аштрафавана. За падобныя парушэнні і непраходжанні медагляду ў магазінах Лебедзеўскага РТП аштрафаваны старшыня і загадчык аддзела калраў. Прыватны прадпрымальнік **В. Шафаловіч** аштрафаваны за выкарыстанне бруднага посуду пры рэалізацыі алею на рынку.

У лабараторыях цэнтра даследавана 47 проб па бактэрыялагічных і 77 проб па хімічных паказчыках бяспечнасці харчовых прадуктаў, усе адпавядалі нормам. Паказчыкі якасці вады, даследаваныя з цэнтралізаваных крыніц (водаправодаў), здавальняючыя. Вада з шахтавых калодзежаў в. в. Пятроўшчына, Гарадок, Токараўшчына не адпавядала нарматывам па бактэрыялагічных паказчыках і ўтрыманні нітратаў, што сведчыць пра арганічнае забруджанне вады. Па дадзеных лабараторнага кантролю вады шахтавых калодзежаў, на тэрыторыі раёна за 9 месяцаў бягучага года 89% даследаваных проб не адпавядалі дапушчальным нормам.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач Маладзечанскага РЦГіЭ.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-34, 36-38.*

## Наркаманаў арыштоўваць? Даводзілася...

***Яшчэ з борта самалёта кідаецца ў вочы, што над Нью-Ёркам шмат паліцэйскіх верталётаў. А ў Дэ Мойне, куды мы прыляцелі, у свой час арыштавалі знакамітых Боні і Клайда. Дзейнасць паліцыі цікавіла, арганізатары пайшлі нам насустрач.***

Злачыннасць у Аёве, у асноўным, суседствуе з прозвішчамі выхадцаў з Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі. Амерыканцы не схільныя (па крайняй меры, на словах) звязваць паняцце парушэння законнасці з колерам скуры, але статыстыка гаворыць, што ў кварталах, дзе жывуць чорныя - галеча, наркаманія, высокі ўзровень злачыннасці.

Цікава, што пры ўсім гэтым берагчы сябе ад СНІДу, засцерагацца паліцэйскі абавязаны сам - гумовыя пальчаткі пры аглядзе наркамана, меры перасцярогі пры затрыманні. Дарэчы, апошнія паліцэйскія забітыя ў Дэ Мойне ў 1977 годзе.

### Рэйд

Нам далі магчымасць паўдзельнічаць у паліцэйскім патруляванні Дэ Мойна. Не скарыстаць такую магчымасць, натуральна, было немагчыма.

Ва ўчастку нам расказалі пра сітуацыю ў горадзе. У прыватнасці, пра скаргі на тое, што суседскі сабака гучна брэша – паліцэйскі, разбірайся. Але не гэта, вядома, асноўнае. Ёсць у горадзе сваё "дно", дзе ўвечары з'яўляцца непажадана.

Асаблівая ўвага ў ЗША надаецца барацьбе з наркотыкамі. Чвэрць стагоддзя таму амерыканцам дазволілі спажываць штонішто з наркатычных рэчываў адкрыта, а сёння грамадства мае плады гэтага: многія лічаць, што гэта іхняе неадʼемнае права, а забарона на наркотыкі – парушэнне правоў чалавека.

Непасрэдна перад рэйдам нас азнаёмілі з паперай, дзе, у прыватнасці, мы засведчылі, што не будзем падаваць у суд ці распачынаць нейкі іншы пераслед у выпадку, калі ўбачым нешта абражальнае або пачуем у свой адрас. Ад парушальнікаў, зразумела.

...Праз хвілін 15 пасля выезду «наш» афіцэр паліцыі **Джо Відлоўскі** «прыклеіўся» да нейкай машыны, а неўзабаве і спыніў яе. Засталося незразумелым, чым ён кіраваўся сярод соцень і соцень аўтамабіляў, але пасля затрымання маладога хлопца, што быў за рулём, на запыт ва ўчастак пацвердзілі правамернасць дзеяння паліцэйскага.

Дзяўчыну–спадарожніцу высадзілі проста на вуліцу, хлопца ў кайданках пасадзілі да аўтара на задняе сядзенне, машыну адбуксіравалі ва ўчастак выклікання паліцэйскі цягач. Уразіла колькасць папер, што афармілі на затрыманага, і колькі гэтая бюракратыя доўжылася.

...На гэтага наркамана нехта "капнуў" (той быў пад наглядам, не меў права нават спіртное ўжываць). Падʼехалі да двухпавярховага драўлянага дома (падобнага на будынак, дзе ў Маладзечне месцяцца аддзяленне міліцыі на транспарце – толькі амерыканскі напалову меншы па плошчы). Доўга шукалі ўваход, затым падняліся наверх.



*Уначы Дэ Мойн прыгожы. Калі ж спусціцца ніжэй, то заўважыш яго ныя трушчобы, кварталы злачынцаў і наркаманаў.*



*Паліцэйскі ўчастак больш нагадвае вылічальны цэнтр ці офіс буйной фірмы.*

ФОТА РАМАНА УЛАНА І АЎТАРА.

Зайшлі ў кватэру, дзе сямʼя (бацька, маці і дзіця) спала на падлозе. Рэчы параскіданыя па кватэры, неахайнасць, бруд – усё, як і ў нашых "узорных семʼях".

Джо адразу вызначыў, што гаспадар кватэры курыў нейкі мета... (назву запомніць было цяжка). І гэтага аматара забароненых рэчываў чакалі кайданкі і дарога ва ўчастак.

...Шэсць вечара, пятачок на аўтазапраўцы, што па Шостай авеню (добра вядомай сваімі наркаманамі). Чорныя, каляровыя, як толькі ўбачылі паліцэйскую машыну, адразу нашатырыліся, пахаваліся – відаць было, нешта "хімічылі". Аднак паліцэйскаму і гэтага было дастаткова.

– Гэта папулярнае месца ў гандляроў наркотыкамі,– тлумачыць Джо і тут жа робіць запыт па радыёсувязі на нумар аўтамабіля, што стаіць на запраўцы.– А ўладальніка вунь таго жоўтага "Ферары" я арыштоўваў нядаўна. Адпусцілі...

...Рушым далей. Перад намі паціху едзе старэнькая машына, з якой валіць дым. Едзем следам, пакуль тая не спыняецца ў нейкім глухім двары. З машыны вылазіць стройнае дзяўчо (як падалося адразу) і вінавата разводзіць рукамі:

– Усё нармальна. Машына толькі...

Аднак Відлоўскі нюхае (!) паветра – і жанчына аказваецца ў кайданках. Праз хвіліну паліцэйскі дастае з машыны затрыманай нейкую трубку і тлумачыць, што з яе дапамогай тая і курыла крэк. Яшчэ адна ахвяра – вельмі худая і пракураная – побач са мною на заднім сядзенні, і мы зноў едзем на ўчастак.

...Праз паўгадзіны Джо раптам рэзка круціць руль, спыняецца ў двары ля нейкага аўтамабіля. Адтуль ён бесцырымонна "дастае" чорнага (нам, праўда, давялі, што іх нельга называць негр ці чорны – толькі "амерыканец афрыканскага паходжання", інакш пакрыўдзяцца). І той таксама адразу аказваецца ў кайданках. Але тут нас чакала кіно.

Па рацыі Відлоўскі атрымлівае загад на праследаванне машыны. Чорны шчасліва застаецца забытым, кайданкі, праўда, імгненна з яго здымаюцца. Мы ляцім у сваю машыну і пачынаюцца захапляльныя гонкі па вячэрнім горадзе.

На здзіўленае пытанне пра тое, чаму паліцэйскі з сігналам і вядомымі па фільмах "мігалкамі" едзе, кіруючыся дарожнымі знакамі, прытармажвае на пустынных скрыжаваннях, Джо адказаў прыкладна так:

– Я – паліцэйскі і абавязаны паказваць прыклад. Па–другое, напярэймы мне можа выехаць такі ж самы, як я, і што будзе?

Сугрэмадзяне, дарэчы, не надта імкнуліся саступаць яму дарогу. Нават калі паліцэйская машына падʼязджала ці не пад задні бампер чарговага ігнаравальнікатукавых і светлавых сігналаў.

Праз хвіліны 3–4 вылецелі на скрыжаванне, дзе стаяла нейкая чорная машына з зацемненым шклом. Побач прытуліўся і паліцэйскі аўтамабіль, але ніхто з людзей не выходзіў.

Падчас патрулявання доўга не мог уцяміць, чаму побач з нашай машынай пры кожным выпадку затрымання зʼяўляецца яшчэ адна – з дзяўчынай–паліцэйскім год 25. А гэта аказалася элементарнай падстрахоўкай – паколькі паліцэйскія ў машынах ездзяць па адным, то патрулююць яны парамі.

Вось і тут дзяўчына падʼехала праз лічаныя секунды. Паліцэйскіх стала трое і Джо з рукой на рэвальверы павольна вышаў на свежае паветра. І адразу (паўтару, як у кіно!) на скрыжаванне праз кусты і тратуары з розных бакоў з інтэрвалам у некалькі секунд павалілі паліцэйскія аўтамабілі. Калі іх стала ці не з два дзесяткі, прыйшоў стомленаразлаваны Відлоўскі і павядаміў, што машына проста не адрэагавала на запатрабаванне спыніцца...

На тым прыгоды скончыліся. Яшчэ пару заўваг–назіранняў. Паліцэйскія – што нашыя барцы ды культурысты (галава плаўна пераходзіць у шыю). Многія прайшлі школу "зялёных берэтаў", розных спецназаў і легіёнаў, маюць спартыўныя разрады. Шварцнегер на іх фоне выглядаў бы самым звычайным паліцэйскім. Да спыненай машыны падыходзяць толькі з расшпіленай кабурой і рукой на рэвальверы (бо гэта найбольш распаўсюджаная сітуацыя, калі гінуць тамтэйшыя ахоўнікі парадку).

Джо падкінуў нас да дома, дзе жылі. Развіталіся цёпла, нібы даўно былі знаёмыя. Яму, дарэчы, у тую ноч споўнілася 27. А продкі паліцэйскага былі, натуральна ж, з Польшчы. Удачы табе, Джо!

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***



БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 14.10 | 21.10 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 198,1 | 222 |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 397 | - |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 126,5 | 137 |
| Скумбрыя (тушка) сал. | 1 кг | 199 | 199 |
| Рыс | 1 кг | 95 | 115 |
| Цукар | 1 кг | - | 72 |
| Грэчка | 1 кг | 90 | 106 |
| Алей | 1 л | 160 | 170 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 28,8 | 29 |
| Маянэз | 250 г | 43 | 45 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 190 | 190 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 50 | 70 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 60 | 65 |
| Лімоны | 1кг | 165 | 190 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 50 | 60 |
| Масла | 1 кг | 160 | 160 |
| Тварог | 1 кг | 40 | 35 |
| Малако | 1,5 л | 20 | 20 |
| Бульба | 1 вядро | - | 80 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 45 | - |

## 20 кастрычніка, Камароўка

**Для вегетарыянцаў**

| *Соевае мяса* | *цана за 100 г* |
|---|---|
| фарш | 48000 |
| гуляш | 51000 |
| кавалачкі | 51000 |
| адбіўныя | 73000 |
| мука соевая | 20000 |
| малако соевае | 55000 |
| марская капуста (сушаная) | 78000 |

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Смачна есці, школьнік

МАЛАДЗЕЧНА. У рэспублікі павялічаны выдаткаваныя дзяржавай сумы на харчаванне школьнікаў – з 4600 рублёў да 14000 рублёў. Гэта абумоўлена рэзкім падаражаннем прадуктаў.

Тым не менш, у школах горада ў ежу трапляюць прадукты, непрымальныя для дзіцячага харчавання. Адзначаецца адсутнасць разнастайнасці прадуктаў, іх недахоп.

*Па дадзеных РЦГіЭ.*

СЕСІЯ

## Мы выхаваем работнікаў, а вы – сваіх выбаршчыкаў

***МАЛАДЗЕЧНА. На пазачарговай сесіі гарадскога Савета дэпутатаў шмат увагі надавалася рабоце пасажырскага транспарту. Дырэктар аўтапарка №4 Пётр Мамчыц выказаў сваю думку аб рабоце гарадскіх аўтобусаў, адказаў на пытанні дэпутатаў.***

У рабочыя дні на 10 гарадскіх маршрутах задзейнічаныя 29 аўтобусаў. 15% гараджан ездзяць "зайцамі". Адстоеў, як такоўскіх, не існуе. Вадзіцелю адзнуць ад 30 хвілін да гадзіны, каб падʼесці і адпачыць. Прычым, не ў гадзіны "пік". Калі вадзіцель едзе на адпачынак у парк, абавязкова павінен браць пасажыраў.

У большасці арганізацый, устаноў рабочы дзень пачынаецца з 8 раніцы. Забраць і развезці ўсіх пасажыраў да гэтага часу немагчыма. Трэба, каб выканкам прапанаваў некаторым прадпрыемствам крыху змяніць графік работы.

З лістапада білет будзе каштаваць 3 тысячы, праязны – 120.

На маршрутах працуюць 74 кандуктары. Чалавек 15 з іх штодзённа на бальнічным. Здараецца, што без кандуктараў аўтобус на лінію не выпускаецца. Кандуктар мае 11 працэнтаў ад продажу білетаў і толькі 2 працэнты (будзе 4) ад рэалізацыі праязных. Бываюць выпадкі, калі праязныя ў кандуктараў, але тыя іх проста не прадаюць.

Пра грубасць з боку кандуктараў кіраўніцтва парка ведае. Выхоўвае сваіх работнікаў. Аднак трэба, каб і дэпутаты выхоўвалі сваіх выбаршчыкаў. Шыць нейкую ўніформу кандуктарам немэтазгодна. Мала хто з іх доўга затрымліваецца на гэтай рабоце. Прапрацоўваецца варыянт з увядзеннем фірменнага жэтона з прозвішчам кандуктара.

Дэпутат **Віктар Шэлег** прапанаваў стварыць штосьці накшталт тэлефона даверу, каб пасажыр мог аператыўна паведаміць пра парушэнні на маршруце.

Дэпутат **Уладзімір Клешч** выступіў, як старшыня Таварыства па абароне правоў спажыўцоў. Ён хацеў бы бачыць аўтобусы "экіпіраванымі" знутры неабходнай спажыўцу наглядной інфармацыяй і кнігай скаргаў.

На якім свеце мы жывем, нагадаў дэпутат **Уладзімір Каваленка**. На маршруце №3 кандуктар абразіла пасажыраў – назвала ідыётамі. На патрабаванні дэпутата назваць сваё прозвішча тая выдала: "Навошта вам маё прозвішча, рэгістраваць шлюб з вамі не збіраюся". Тады Уладзімір Каваленка патэлефанаваў у аўтапарк дыспетчару (быў вячэрні час). Але, па яго словах, патрапіў на такую ж "спрытную" дзяўчыну.

***Васіль САВІЦКІ.***

